# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка лётніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

| LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„ |
|---|---|---|

№ 7 (491) — Нядзеля, 14 лютага 1960 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 14


# ПЕРАМОГА ДЭ ГОЛЯ

Ня цэлыя два гады таму назад, 13 траўня 1958 году, бунт францускіх ахвіцэраў у Альжыры на чале зь генэралам Масю, старшынёю тады-ж створанага Камітэту Грамадзкага Збаўленьня, працерабіў шлях да прыходу да ўлады Дэ Голя й нарадзінаў пятай рэспублікі Францыі. У выніку гэтага Францыя, якая пасьля апошняе вайны апынулася ў стане безнадзейнага нутранага хаосу, міжсобнага партыйнага змаганьня й найвялікшага ў Эўропе камуністычнага засільля, узыйшла на шлях нутранага аздараўленьня і ўнармаваньня сваіх дачыненьняў із заморскімі ўладаньнямі.

Прынятая вялізарнай бальшынёю галасоў насельніцтва 29-га верасьня 1958 году новая канстытуцыя загарантавала аўтахтоннаму насельніцтву заморскіх уладаньняў свабодна вырашаць свой будучы дзяржаўны лёс. Усе афрыканскія краіны Францыі, выбраўшы дзяржаўную незалежнасьць, зажадалі, аднак, астацца ў францускай супольнасьці народаў за выняткам аднэй заходняафрыканскай краіны Гінэі, якая поўнасьцю аддзялілася ад сваей ранейшай мэтраполіі.

Асталося толькі неразьвязаным найбольш скамплікаванае й цяжкае для Францыі пытаньне Альжыру. Справа ў тым, што Альжыр ад даўжэйшага часу ня ёсьць калёніяй, але інтэгральнай часьцяй Францыі. Апрача дзевяцёх мільёнаў аўтахтоннага арабскага насельніцтва, у Альжыры жыве звыш аднаго мільёна ўпрывілеяваных францускіх асаднікаў, якія знаходзяцца тут ужо ад некалькіх пакаленьняў.

Зактывізаваны сярод Арабаў скрайны нацыяналістычны рух усім сваім астрыём быў ськіраваны супраць францускага насельніцтва Альжыру й супраць Францыі. Ужо ад некалькіх год арабскія нацыяналістыя вядуць у Альжыры збройнае паўстаньне супраць Францыі, якім апошнім часам кіруе альжырскі эгзыльны ўрад у Эгіпце. Дзеля змаганьня з паўстанцамі Францыя змушаная трымаць у Альжыры 400 тысячаў сваіх жаўнераў, а ейныя страты ў змаганьні прыносяць у сярэднім 50—60 жаўнераў у тыдзень.

Абняўшы пауніню ўлады ў краіне, прэзыдэнт Дэ Голь становіча прыступіў да ўнармаваньня палажэньня ў Альжыры, запрапанаваўшы арабскаму насельніцтву свабоднае нацыянальнае самавызначэньне. Альжырскія Арабы за два гады пасьля спыненьня імі збройнай акцыі шляхам агульнага галасаваньня могуць выбраць: або дзяржаўную незалежнасьць у рамах францускае супольнасьці народаў, або аўтаномію, або поўнае аддзяленьне ад Францыі.

Гэтая прапазыцыя Дэ Голя не задаволіла, аднак, ані альжырскіх нацыяналістых, ані францускіх асаднікаў. Першыя, успамаганыя й падбухторваныя іншымі арабскімі краінамі, дамагаюцца поўнага ачышчэньня Альжыру ад францускага насельніцтва, другія выказваюцца становіча супраць права на самавызначэньне для Альжыру й дамагаюцца здушэньня паўстаньня збройнымі сіламі.

Нядаўнія зьмены ў кіраўніцтве альжырскіх паўстанцаў абудзілі надзеі разьвязаць канфлікт мірным шляхам. З гэтай мэтай Дэ Голь пастанавіў склікаць на 22 студзеня ў Парыжы альжырскую канфэрэнцыю з удзелам прадстаўнікоў вайсковых і цывільных уладаў. Але за некалькі дзён да гэтай важнай канфэрэнцыі нямецкая газэта «Зюд Дойчэ Цайтунг», што выходзіць у Мюнхэне, надрукавала інтэрв'ю з францускім камандантам гораду Альжыра, ведамым нам з падзеяў 1958 году генэралам Масю, які войстра скрытыкаваў альжырскую палітыку Дэ Голя й тым самым праявіў вайсковую нясубардынацыю. У сувязі з гэтым быў ён Дэ Голем адкліканы з Альжыру й пазбаўлены свайго становішча.

Гэты факт паслужыў беспасярэдняй прычынай новага бунту, гэтым разам ськіраванага супраць Дэ Голя. 22 студзеня адбыліся ў горадзе Альжыры супрацьдэголяўскія дэманстрацыі з удзелам дваццацёх тысячаў францускіх асаднікаў, з боку якіх падалі клічы «На шыбеніцу Дэ Голя!» У сутычцы з войскам было 19 забітых і звыш 140 параненых. Быў абвешчаны генэральны страйк, а некалькі тысячаў бунтаўнікоў, галоўна студэнтаў умацаваліся за барыкадамі, гатовыя да збройнае акцыі. 29 студзеня Дэ Голь выступіў цераз радыё й тэлевізію й, катэгарычна адмовіўшыся выканаць дамаганьні паўстанцаў, выдаў загад арміі навесьці сілаю парадак у краіне. У выніку гэтага 1-га лютага паўстанцы злажылі аружжа й пакінулі барыкады. Скліканае Дэ Голям 2-га лютага Нацыянальнае Сабраньне вялізарнай бальшынёю прызнала ўраду надзвычайныя паўнамоцтвы, на падставе якіх урад, не адклікаючыся да парляманту, атрымаў права праводзіць усякія мерапрыемствы, неабходныя дзеля забясьпечаньня парадку. У найбліжэйшых днях чакаецца рэарганізацыя францускага ўраду. Гэткая хранале́гія падзеяў.

Апошнія падзеі выходзяць далёка паза лякальныя справы Альжыру, яны не абмяжоўваюцца й справамі цэлае Францыі. Ад вынікаў гэтых падзеяў залежыў лёс цэлае Эўропы, а навет будучыня вольнага сьвету.

Гэтымі падзеямі Дэ Голь і ягоная палітыка былі выстаўленыя на небясьпечную пробу. Бо што чакала Францыю ў выпадку эвэнтуальнага правалу Дэ Голя? Дамашняя вайна была няўхільная, а ў ейным выніку наступіла-б або дыктатура арміі, або скрайна правых нацыяналістых або да ўлады дарваліся-б камуністыя. Справа аздараўленьня нутранага жыцьця Францыі, мазольна праводжаная на працягу амаль двух год Дэ Голям, была-б спыненая ў зародку, а ўся краіна апынулася-б узноў на дне хаосу, як і перад 13-ым траўнем 1958 году. Перад гэткаю небясьпекаю стаяла сама Францыя.

Што-ж датычыць Эўропы й справы заходняе абароннае сыстэмы, дык Францыя ўзноў прадстаўляла-б у ёй пустое месца, а ейнае належаньне да Атлянтычнага пакту было-б пастаўленае ў найлепшым выпадку пад вялікі знак запытаньня.

Гэткі абарот выпадкаў мог-бы, аднак, найбольш трагічна адбіцца на пазыцыях вольнага сьвету ў ягоным змаганьні з камуністычнай экспансіяй на такім важным сьветавым адрэзку, як недаразьвітыя, а ў мінулым каляніяльныя краіны паўдзённа-ўсходняй Азіі, Сярэдняга Ўсходу й Афрыкі. Правал альжырскай палітыкі Дэ Голя даў-бы Савецкаму Саюзу моцны козыр у рукі ў ягоных цьверджаньнях, што Захад абсалютна няздольны разьвязаць пытаньне каляніяльных народаў і што да справядлівага разьвязаньня гэтага пытаньня пакліканыя адно толькі Саветы. Ня трэба падробна й даводзіць, якія гэта мела-б жахлівыя вынікі для Захаду.

І наадварот, перамога Дэ Голя й ягонай альжырскай палітыкі на гэтым першым этапе адкрываюць пэрспэктывы ейнае поўнае перамогі й на далейшых этапах. Гэта можа стацца трывалым мостам да ўзаемнага паразуменьня й даверу між Захадам і ягонымі былымі калёніямі — сяньняшнімі незалежнымі дзяржавамі паўдзённа-ўсходняй Азіі, Сярэдняга Ўсходу й Афрыкі. У гэтым вялікае сьветавае значаньне сяньняшняй перамогі Дэ Голя.

**Язэп Каранеўскі**

# Змаганьне з „буржуазным нацыяналізмам“ завайстраецца

Разглядаючы пастанову ЦК КПСС «Аб заданьнях партыйнай прапаганды ў сучасных умовах» зь 9 студзеня сёлета, у папярэднім нумары «Бацькаўшчыны» мы зьвярнулі ўвагу на заклік гэтае пастановы да змаганьня з праявамі «буржуазнага нацыяналізму» сярод нерасейскіх народаў СССР, а таксама на факт наступу расейскае чарнасоценскае рэакцыі. У гэтым артыкуле пазнаёмім чытача «Бацькаўшчыны» зь першымі крокамі на шляху гэтага прадбачанага змаганьня партыі, якое, як ведама, вядзецца ўжо каля сарака гадоў.

Можна сказаць, што яшчэ не пасьпела навет добра высыхнуць хварба аддрукаване ўспомненае пастановы ЦК КПСС, як ужо ў нацыянальных рэспубліках партыйныя стаўленікі Масквы растапырылі свае асьлiныя вушы, каб на першы загад кінуцца да акцыі. Праўду сказаўшы, яны былі паінфармаваныя аб гэтай акцыі яшчэ задоўга да апублікаваньня пастановы. Як яно там ня было, але першыя вынікі гэтага змаганьня партыі з «буржуазным нацыяналізмам» у нацыянальных рэспубліках СССР мы ўжо маем.

20 студзеня ў сьценах Віленскага ўнівэрсытэту была скліканая рэспубліканская нарада, прысьвечаная пытаньню «інтэрнацыянальнага» ўзгадаваньня студэнтаў вышэйшых навучальных установаў. У працы гэтае нарады прыймаюць удзел кіраўнікі, сакратары партыйных і камсамольскіх арганізацыяў усіх вышэйшых навучальных установаў Летувы. Прысутнічаюць на ёй «госьці» зь Беларусі, Латвіі й Эстоніі. Удзельнічае таксама й Калінінградзкая вобласьць — Усходняя Прусія, дзе знаходзіцца ці мала Беларусаў. Адным словам, нарада «на вышэйшым узроўні» прыбалтыцкіх каленіяў Масквы. Гэта азначае, што тут была заплянаваная больш шырэйшая акцыя, якая тычыцца ня толькі Летувы, але Беларусі, Латвіі й Эстоніі.

Што гэтая нарада была скліканая ў сувязі з успомненай пастановай партыі, гэта ня выклікае ніякіх засьцярогаў. Падчас нарады неаднаразова пакліkaліся на яе. Напрыклад, пішучы справаздачу з нарады, сакратар партыйнага камітэту Віленскага ўнівэрсытэту нейкі І. Белініс усяляк цытуе «павучальныя» вытрымкі з гэтае пастановы ЦК КПСС.

Як можна бачыць з кароткае справаздачы І. Беліміса, на нарадзе галоўная ўвага зьвярталася на праявы «буржуазнага нацыяналізму» ў васяродзьдзі прафэсарскіх кадраў, і з пасярод апошніх — у васяродзьдзі прафэсарскіх кадраў грамадзка-гуманітарных навукаў. Гэтак прафэсура Летувы «гадавала» «буржуазны нацыяналізм» як у сваім паглядзе на літаратуру й гісторыю летувіскага народу, так і на ягоную мову. Бязумоўна, праз гэта «буржуазны нацыяналізм» прывіваўся таксама й студэнтам. У васяродзьдзі студэнцкае моладзі «буржуазны нацыяналізм» разьвіваўся пры дапамозе створаных ёю этнаграфічных і фальклёрных гурткаў, якія ў сваей дзейнасьці станавіліся на «аб'ектыўныя пазыцыі», забываючы «пра клясавую прыроду ўсякага культурнага зьявішча».

Быццам-бы да гэтага часу была занядбаная барацьба партыйных і камсамольскіх арганізацыяў вышэйшых навучальных установаў з падобнымі зьявішчамі, хоць яна й вялася час ад часу. Прынамся, нарада прызнала дасюлешнюю слабасьць гэтае барацьбы. Таму, зыходзячы з духу пастановы партыі «Аб заданьнях партыйнае прапаганды ў сучасных умовах» у нацыянальным пытаньні, нарада, праўдзівей партыя, пастанаўляе ў сваю чаргу: ажывіць дзейнасьць партыйных і камсамольскіх арганізацыяў вышэйшых навучальных установаў па «інтарнацыянальнаму» ўзгадаваньню студэнтаў; ахапіць партыйнай прапагандай ня толькі факультэты грамадзкіх і гуманітарных навук, але й факультэты іншых галінаў навукі; устанавіць моцную партыйную кантролю над працай прафэсуры, факультэтаў і пасобных катэдраў, над працай тых ці іншых студэнцкіх гурткоў. Разам з гэтым былі таксама выпрацаваныя канкрэтныя мерапрыемствы гэтае партыйнае акцыі.

Такім чынам у Савецкім Саюзе распачынаецца новы пэрыяд адкрытага й плянавага наступу Масквы на нацыянальнае жыцьцё нерасейскіх народаў. Зусім ня цяжка ўявіць, да чаго можа прывесьці гэты наступ. Пайменна ён прывядзе да сумных вынікаў падобнага змаганьня партыі з «буржуазным нацыяналізмам» канца 1920 — пачатку 1930 гадоў. Гэтыя вынікі ўжо добра ведамыя. Бяручы пад увагу цяперашняе намаганьне Масквы «выгадаваць з падсавецкіх народаў апрычоную камуністычную нацыю», трэба спадзявацца, што прадбачаны антынацыянальны паход партыі будзе яшчэ больш брутальным і нацыянальна зьнішчальным, чымся ён быў у 1930-х ці на пераломе 1940—1950 гадоў. Ён будзе зьмятаць усё тое, што хоць крыху вязалася ці напамінала пра нацыянальную апрычонасьць, што хоць крыху падмацоўвала спадзяваньні на будучае нацыянальнае вызваленьне.

Аднак, як паказала практыка тых-жа 20-х гадоў, гэты г. зв. «буржуазны нацыяналізм», а ў нашым паняцьці — інстынктоўная й спантанічная самаабарона нацыі перад русыфікацыяй — ня так лёгка выкараніць, бо якраз карэньні яго сягаюць у самую глыбіню народнае душы, доступу да якое маскоўска-бальшавіцкі акупант ніколі ня меў і мець ня будзе!

**П. Залужны**

# Ліквідацыя Маладэчынскай вобласьці

Загадам Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР 20 студзеня сёлета была зьліквідаваная Маладэчынская вобласьць. Такім чынам, БССР цяпер складаецца з 6 вобласьцяў. Маладэчынская вобласьць была зарганізаваная 4-га сьнежаня 1939 году. Спачатку абласным цэнтрам вобласьці была Вялейка.

Маладэчынская вобласьць дзялілася на 2 раёны й цягнулася вузкай паласою з поўдня на поўнач зь невялікім нахілам на ўсход, мяжуючы на захадзе зь Летуваю.

Пасьля 1954 году Дзісьненскі, Ільянскі й Сьвірскі раёны гэтае вобласьці былі зьліквідаваныя, а сельскія саветы гэтых раёнаў былі далучаныя да суседніх раёнаў. Такім чынам перад ліквідацыяй Маладэчынская вобласьць мела ў сваім складзе 19 раёнаў.

Паводля загаду Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету БССР дзевяць раёнаў зьліквідаванае Маладэчынскае вобласьці — Браслаўскі, Відзаўскі, Глыбоцкі, Докшыцкі, Дунілавіцкі, Мёрскі, Плiскі, Пастаўскі й Шаркаўскі — далучаныя да Віцебскай вобласьці.

Астравецкі, Ашмянскі, Смаргоньскі й Юрацішкаўскі раёны далучаныя да Горадзенскай вобласьці, а Вялейскі, Валожынскі, Івянецкі, Крывіцкі, Маладэчынскі, Мядзельскі, Радашкавіцкі з гарадамі Маладэчына й Вялейка адыйшлі да Менскай вобласьці.

Адначасова з гэтым, іншым загадам Вярхоўны Савет БССР скасаваў аж 15 раёнаў. У Берасьцейскай вобласьці скасаваны Ленінскі раён. Чатыры сельскія саветы гэтага раёну пакінутыя ў складзе Берасьцейскай вобласьці. Тры сельскія саветы далучаныя да Старобінскага раёну Менскай вобласьці, а Ленінскі сельскі савет далучаны да Жыткавіцкага раёну Гомельскай вобласьці.

У Віцебскай вобласьці скасаваны Багушоўскі, Ветрынскі й Сураскі раёны. Сельскія саветы гэтых раёнаў засталіся ў Віцебскай вобласьці. У ліку скасаваных раёнаў апынуліся Відзаўскі й Дунілавіцкі былой Маладэчынскай вобласьці. Усе сельскія саветы Відзаўскага раёну ўвайшлі ў склад Браслаўскага раёну, а Дунілавіцкага — у склад Глыбоцкага раёну.

У Гомельскай вобласьці скасаваны Даманавіцкі раён, сельскія саветы якога далучаны да іншых раёнаў гэтай-жа вобласьці.

У Горадзенскай вобласьці скасаваныя тры раёны: Васілішкаўскі, Казлоўшчынскі й Паразоўскі. Сельскія саветы зьліквідаваных раёнаў засталіся ў складзе Горадзенкай вобласьці, прычым Паразоўскі раён поўнасьцяй далучаны да Сьвіслацкага раёну.

Скасаваны таксама Юрацішкаўскі раён былое Маладэчынскае вобласьці, сельсаветы якога далучаныя да Іўеўскага раёну Горадзенскае вобласьці.

У Менскай вобласьці скасаваны тры раёны: Бягомельскі, Рудзенскі й Халопеніцкі. З былога Бягомельскага раёну толькі два сельскія саветы далучаныя да Барыскаўскага раёну Менскай вобласьці, а іншыя — адыйшлі да Віцэбскай вобласьці. Сельскія саветы Рудзенскага раёну разьмеркаваныя паміж раёнамі Менскай вобласьці. Два сельскія саветы Халопеніцкага раёну — Кашчынскі й Чырвоналуцкі — далучаныя да Лепельскага раёну Віцебскай вобласьці, а рэшта да раёнаў Менскай вобласьці.

Быў скасаваны й Радашкавіцкі раён былой Маладэчынскай вобласьці, сельсаветы якога ў васноўным засталіся ў Маладэчынскім раёне, а чатыры — далучаны да Валожынскага раёну.

Што можна сказаць пра ліквідацыю Маладэчынскай вобласьці й 15 раёнаў? Гэта ня першая і, відаць, не апошняя рэарганізацыя. На працягу йснаваньня савецкае ўлады на Беларусі насельніцтва перажыло шмат зьменаў. Ліквідаваліся акругі, а разам зь імі й раёны. Паўставалі вобласьці, новыя раёны, а пасьля іх ліквідавалі. Штучна была створаная й Маладэчынская вобласьць, з цэнтрам у невялікім гарадку з 6 тысячамі жыхарства. Ніякага натуральнага эканамічнага імкненьня навакольнага жыхарства да Маладэчына ня было й быць не магло. Знаходзячыся ў вадлегласьці 80 кілямэтраў ад Менску й 120 кілямэтраў ад Вільні, ня маючы ні прамысловых прадпрыемстваў, ні буйных гандлёвых арганізацыяў, яно ня прыцягвала жыхарства. Адну толькі перавагу мела Маладэчына: тут скрыжоўваюцца два чыгуначныя шляхі — Менск—Вільня й Полацк—Ліда. Аднак і тут роля гэтага чыгуначнага вузла невялікая.

Вызначыўшы Маладэчына абласным цэнтрам, рэспубліканскія арганізацыі і ўстановы прыклалі шмат стараньняў, каб прыдаць гэтаму новаму цэнтру аблічча абласнога цэнтру. Вынікі заставаліся марнымі.

Аднак скасаваньне Маладэчынскай вобласьці й 15 раёнаў мае іншыя прычыны, чымся няўдалы выбар абласнога ці раённых цэнтраў. У мінулыя часы скасаваньне адміністрацыйных цэнтраў было зьвязанае з умацаваньнем у вобласьцях і раёнах партыйнага, савецкага й гаспадарскага кіраўніцтва. Прыкладам, старшыні ліквідаваных вобласьцяў і раёнаў перасоўваліся на загадчыкаў аддзелаў ніжэйшых адміністрацыйных адзінак, дзе, маючы ўжо пэўнае дасьветчаньне, яны падцягвалі гэтыя адзінкі.

Цяпер партыйна-савецкае кіраўніцтва занепакоенае становішчам эканамічна адсталых калгасаў. Да гэтага часу не ўдалося яшчэ знайсьці нейкі спосаб, каб

(Заканчэньне на 2-ай бачыне)

# Адказ С. Прытыцкаму

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

Чаго толькі ні вярзе Прытыцкі! У ваднэй мясьціне ён цьвердзіць, што польская паліцыя страляла без папярэджаньня ў «падозраных» грамадзянаў («Ніва», 26. 10. 58). У іншых-жа месцах хваліцца, што камуністыя арганізоўвалі дэманстрацыі, у часе якіх забівалі войтаў і паліцыянтаў. Як-жа разумець тады Прытыцкага? — Паліцыя мела права страляць у кажнага грамадзяніна без папярэджаньня, але вось калі камуністыя рабілі дэманстрацыі, забіваючы войтаў і паліцыянтаў, дык паліцыя не страляла ў камуністых. Выходзіць, што камуністыя ў Польшчы мелі асаблівыя правы — магчыма гэта была ўзнагарода за нішчэньне беларускага вызвольнага руху?..

Прытыцкі кажа далей: «Цяжка апісаць усе жахі засьценкаў польскай дэфэнзывы. Наўрад ці магла якая-небудзь ахранка ўва ўсім сьвеце, за выключэньнем гітлераўскай, зраўняцца зь ёю ў выдасканаленьні й садызьме катаваньняў... Нездарма вышэйшыя польскія чыны езьдзілі на вывучку да Гімлера й Герынга» («Ніва», 26. 10. 58).

Я далёкі, каб бараніць зьверствы польскае дэфэнзывы, якія сам перанёс у дваццатых і трыццатых гадох. Тады ў Нямеччыне яшчэ ня было Гітлера, а спосабы й мэтады катаваньняў польская дэфэнзыва ўжо тарнавала, бо пераняла іх ад бальшавіцкага ЧК-ГПУ. Прытыцкаму, пэўна-ж, ведама, як ведама цэламу сьвету, што за ўвесь час існаваньня камунізму ў СССР, на дзясяткі мільёнаў засуджаных, не знайшлося ніводнага чалавека, каб ня прызнаўся вінаватым у злачынствах, якіх ніколі не рабіў, а да якіх арыштаванага змушалі прызнацца ўдасканаленымі спосабамі фізычнага й маральнага катаваньня. Сваім часам Сталін сказаў, што ляпей расстраляць сто бязьвінных, чымся выпусьціць аднаго вінаватага.

Камунізм, толькі камунізм парадзіў спосабы й мэтады нішчэньня дзясяткаў мільёнаў сваіх і чужых грамадзянаў. Першыя прозьвішчы ў гісторыі генацыду 20-га стагодзьдзя: Ленін, Дзяржынскі, Сталін ды іхныя спадкаемцы Ягода, Яжоў і Хрушчоў.

Прытыцкі піша: «У мяне, калі я пішу гэтыя радкі, перад вачыма паўсталі сьветлыя вобразы многіх таварышаў, якія аддалі свае маладыя жыцьці за шчасьце народу».

Прытыцкі ўсяго-на-ўсенькага называе чатырох таварышоў, па якіх пралівае сьлёзы. Калі-б ён быў сумленным чалавекам, ён крывёй плакаў-бы за свой замучаны бальшавікамі народ. Ён сказаў-бы: у мяне паўстаюць сумныя вобразы тысячаў сыноў і дачок мае бацькаўшчыны — дзяржаўных мужоў, пісьменьнікаў, кампазытараў, артыстых, журналістых, навукоўцаў, сьвятароў, настаўнікаў, работнікаў, сялянаў, якім забралі жыцьці й здароўе на высылках і ў падвалах ЧК-ГПУ-НКВД-МВД-КГБ. Каб Прытыцкаму быў зразумелы ягоны ўдзел у нішчэньні свайго народу, варта прывесьці яму дэмаграфічную статыстыку.

У 1897 г. на Беларусі было 10 300 000 жыхароў. Пры ўласьцівым Беларусі натуральным прыросьце, калі-б ня было войнаў, у 1959 г. на Беларусі павінна было-б быць 25 720 000 жыхароў. Адлічыўшы ад гэтага страты дзвюх сусьветных войнаў і жыхарства тэрыторыяў, прысабечаных Расеяй або раздадзеных суседзям у парадку палітычных каншахтаў (Смаленшчына, Браншчына, Віленшчына, Беласточчына, Дзьвіншчына), ды адлічыўшы таксама эміграцыю — бяручы ўсё разам як страту 12 150 000 жыхароў — на тэрыторыі сяньняшняе савецкае Беларусі павінна было-б налічвацца 13 570 000 жыхароў. Тымчасам перапіс 1959 году даў сумны й жахлівы вынік... 8 мільёнаў. Дзе-ж падзеліся больш за пяць з палавінаю мільёнаў асобаў? — Пра гэта ў савецкай Беларусі ніхто не адважваецца ні пытацца, ні гаварыць, але пра гэта ведама цэламу вольнаму сьвету.

Прытыцкі, сам правакатар, стараючыся выклікаць у чытача абурэньне, наракае: «Апроч катаваньняў, дэфэнзыва шырака практыкавала засылку ў рады кампартыі правакатараў».

Бясспрэчна, паліцыя, як кажная паліцыя на сьвеце, старалася практыкаваць і гэты спосаб. Рабіла яна гэтак, аднак, не на пачатку існаваньня кампартыі, але пасьля, калі ашуканыя агентамі Масквы маладыя хлапцы, адседзеўшы ў вастрогах, паварочаліся дамоў, дык польскай паліцыі ня лішне й трэба было засылаць правакатараў. Былыя ахвяры камуністычнага дурману самі выдавалі ў рукі паліцыі маскоўскіх агентаў, каб зьліквідаваць іхную пагрозу.

На довад свайго цьверджаньня я прывяду прыклад Навагрудзкага раёну, што мне больш ведамы ды напэўна ведамы й Прытыцкаму, бо ён заве Навагрудзкі раён скамунізаваным. Падам таксама ведамыя яму прозьвішчы тых, што працавалі ў польскай паліцыі, будучы ў кампартыі, ды тых, што парвалі зь ёю й сталіся інфарматарамі польскае дэфэнзывы. Вось першая група іх: Заіка-Моніч, Бушэйка, Гаўрош, Пронька сын, Фурса, Любчанскі, Коршун; гэткую самую дзейнасьць праводзіў і Зіняк-Хмара. Усе яны з прыходам бальшавікоў былі арыштаваныя (апрача Фурса, што быў забіты ў лесе ўлетку 1939 г.). Усе яны нямаведама дзе дзеліся, за выняткам Зіняка-Хмары, што нейкай цаной вытаргаваў сабе волю. Да другое групы да тых, што парвалі з камунізмам ды пайшлі на працу да польскае паліцыі, належалі: Дударэвіч, Раманюк, Грамыка, Яцкевіч і Турок. Да трэйцяе групы належалі гадунцы кампартыі, што хадзілі із зброяй у руках па сваіх суседзях і вымагалі золата ды амэрыканскіх даляраў. Калі абрабавалі сялянаў і ня было далей за што гуляць, дык пачалі красьці ўсё й усюды: бульбу, хамуты, кавальскае прыладзьдзе, палячы адначасна цэрквы (Дальная Рута) й капліцы на могілках, а таксама будынкі сялянаў. Параніўшы аднаго селяніна, гадунцы кампартыі зь пярэпалаху павыдавалі адзін аднаго. Зь ліку 16-х чатырох было засуджана насьмерць: Малец, Стасевіч, Гаўрош і Бахар; трох было засуджана на пажыцьцёвае зьняволеньне; рэшта атрымала ад двух да чатырох гадоў турмы. Вось да чаго даводзіла узгадавальніца кампартыя нясьведамых вясковых юнакоў. Але ці можа забойца ўзгадаваць кагосьці іншага? Забойца ўзгадуе толькі забойцу — гэтак было ад пачатку камунізму й будзе аж да ягонага скону.

Чытаючы ўспаміны Прытыцкага, малодшы чытач (бо старэйшыя, бадай, усе выгубленыя на Беларусі) можа падумаць: вось якія цуды выrabляла КПЗБ на Заходняй Беларусі; без камуністых Палякі, напэўна, усіх Беларусаў парабілі-б Палякамі, і ня было-б ніякага беларускага вызвольнага руху.

У запраўднасьці-ж КПЗБ толькі разьбіла беларускае вызвольнае змаганьне. Нацыянальную сьведамасьць ды ймкненьні да незалежнага жыцьця беларускі народ выказаў ужо ў 1917 г., на Ўсебеларускім кангрэсе, і 25 сакавіка 1918 г. абвешчаньнем Беларускае Народнае Рэспублікі. Тое самае было таксама прадэманстравана ў Заходняй Беларусі ў часе выбараў у польскі сойм у 1922 г. Затое ў выбарах 1928 г. заміж 14 сваіх прадстаўнікоў, Беларусы правялі толькі 11, якраз дзякуючы падкопным махінацыям КПЗБ. У вакругах, дзе кампартыя мела найбольш уплыву, як піша Прытыцкі, — на Беласточчыне й Піншчыне — беларускія лісты кандыдатаў ня былі нат і выстаўленыя. Найяскравей, аднак, «папулярнасьць» камуністых сярод беларускага народу выявілася ў Навагрудзкай выбарчай акрузе, дзе ў сэнат быў выстаўлены пракамуністычны сьпіс (кандыдат Іван Малец) і сьпіс «Сялянскага Саюзу» (кандыдат сьв. пам. Васіль Рагуля, што адбываў гэным часам двугадовы прысуд цяжкога зьняволеньня). Зразумела, пры такой сытуацыі Сялянскі Саюз не праводзіў за свайго кандыдата ніякае агітацыі, а за Івана Мальца ўсе аркашы, роберты, дзёмкі, міцькі, веры кінулі ўсё: грошы, угаворы, а найбольш пагрозы. Нішто, аднак, не магло зьбіць беларускіх сялянаў з нацыянальна-вызвольнага шляху. Яны аддалі ўсе свае галасы за таго, хто нага ў нагу ішоў разам зь імі. Васіль Рагуля, на жаданьне беларускага народу пайшоў бараніць ягоныя правы з вастрогу ў сэнат. Пракамуністычны кандыдат І. Малец, а зь ім разам уся КПЗБ панесьлі поўную паразу, бо Малец атрымаў усяго-на ўсенькага 259 галасоў. У выніку гэтае паразы, верхаводы з КПЗБ выдалі ў рукі польскае паліцыі сакратара Баранавіцкага акруговага камітэту партыі нейкага Кандрацюка-Нікіцюка і, ахрысьціўшы яго правакатарам, звалілі на яго ўсю віну за няўдачу ў выбарах.

На заканчэньне Прытыцкі зварачаецца да моладзі й кажа:

«Калі хочаце ведаць сучаснае, вывучайце мінулае. Цанеце цудоўнае жыцьцё, створанае вам камуністычнай партыяй і савецкай уладай. Памятайце, што яно дасталося нялёгка. За яго шмат праліта крыві, аддадзена нямала чалавечых жыцьцяў. Не разьменьвайце ваша жыцьцё на дробязь. Яно даецца толькі адзін раз, і яго трэба пражыць сумленна, з максымальнай карысьцяй для свае радзімы, свайго народу. Ня важна, кім хто з вас будзе, дзе яму давядзецца жыць, на паўдні краіны ці на далёкай поўначы, быць шахцёрам, аграномам, лётнікам, мараком ці прафэсарам, — скрозь і ўсюды сумленна выконвайце свой абавязак перад радзімай і народам, і яны скажуць вам дзякуй».

Усе народы сьвету, вывучаючы мінуўшчыну свайго краю, тварылі й творац свае незалежныя гаспадарствы. Жыды, вывучаючы сваю гісторыю, пасьля двух тысячагодзьдзяў стварылі сваю самастойную дзяржаву. Усе сыны й дочкі нашага народу, што вывучылі гісторыю свае бацькаўшчыны — Вялікага Княства Літоўскага і прыйшлі да таго-ж самага перакананьня патрэбы аднаўленьня свае страчанае дзяржаўнасьці, — былі пазбаўленыя жыцьця расейскімі акупантамі, на службе якіх Прытыцкі пражывае свой век.

«Цанеце цудоўнае жыцьцё, створанае вам камуністычнай партыяй і савецкай уладай». А што-ж было створанае? — Гібеньне за палярным кругам, на Варкуце, Салоўках, Ігарцы, у бязводным дзікім Казахстане й безьлічы канцлягераў, куды, разлучыўшы зь сем'ямі й адарваўшы ад прадзедаўскіх кутоў, паразвозілі вас крамлёўскія каляніялістыя.

Але-ж, жыцьцё даецца чалавеку толькі адзін раз. Якім-жа правам кампартыя пазбавіла жыцьця мільёны сыноў і дачок беларускага народу? Гэтыя грамадзяне жылі сумленна для свайго народу й за гэта, пры дапамозе гэткіх братапрадаўцаў, як Прытыцкі, маскоўскія акупанты паўсьцілалі іхнымі касьцямі дарогі ад Беларусі па далёкую дзікую поўнач ды іншыя камуністычныя лягеры сьмерці.

Але дармо. Беларускі народ прайшоў саракагадовы шлях змаганьня з камуністычнымі народагубцамі і не сагнуў свае галавы перад дэспатамі дваццатага стагодзьдзя. Наш народ вёў і будзе весьці змаганьне, пакуль не адбудуе сваю вольную дзяржаву — тады ўсе зраднікі змушаныя будуць стаць перад народным правасудзьдзем.

А. -іч

### У АКАДЭМІІ НАВУК БССР

22-24 сьнежаня 1959 г. адбыўся агульны сход АН БССР, на якім быў папоўнены штат паўнапраўных акадэмікаў і сяброў-канрэспандэнтаў. Новыя акадэмікі: І. А. Булыгін, Ц. С. Гарбуноў і М. М. Паўлючэнка. Новыя сябры-карэспандэнты АН: І. Л. Бардышаў, А. С. Вечар, Н. В. Каменская, І. С. Краўчанка, Б. І. Ладыгін, А. С. Махнач, Р. А. Пёрышкін, Д. А. Супруненка, І. М. Сяржанін, В. М. Тройер, («Зьвязда», 26. XII. 1959).

### ДА ПАВАЖАНЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**Нумар «Бацькаўшчыны» за 17-га красавіка сёлета будзе з чаргі 500-ым нумарам. Каб належна адзначыць гэтую важную для нас, а для ўсёй беларускай прэсы на эміграцыі першую падзею, Рэдакцыя пляную гэты 500-ы нумар сваёй газэты выпусьціць вялікім разьмерам, багата ілюстраваным і разнастайным сваім зьместам. Асаблівым пажаданьнем Рэдакцыі ёсьць, каб усе нашыя супрацоўнікі — публіцыстыя, навукоўцы, паэты, пісьменьнікі, мастакі, гумарыстыя й наагул карэспандэнты, якія да гэтага часу друкавалі свае творы або зьмяшчалі ілюстрацыі на бачынах «Бацькаўшчыны», што-небудзь спэцыяльна прыгатавалі да ейнага 500-га нумару. Пісаць просім на розныя тэмы, не абавязкава зьвязаныя зь юбілеем. Дзеля таго, што нумар гэты будзе прыгатаўляцца й друкавацца загадзя, усе матар'ялы, для гэтага нумару прызначаныя, ветліва просім прысылаць у Рэдакцыю не пазьней 15-га сакавіка сёлета.**

**З пашанаю**

**Рэдакцыя «Бацькаўшчыны»**

# Ліквідацыя Маладэчынскай вобласьці

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

падняць іх эканоміку. Спробы ўліць гэтую катэгорыю калгасаў у саўгасную сыстэму ня прынесьлі чаканых удачаў. А тымчасам Хрушчоў перакананы, што адсталыя калгасы могуць быць выведзены на «шырокі шлях росквіту» толькі энэргічнымі й здольнымі кіраўнікамі, арганізатарамі партыйцамі. Таму ўвесь час вядзецца праца над умацаваньнем кіраўніцтва эканамічна адсталых калгасаў. Другая справа, што гэтыя «пасланцы» партыі ня маюць вялікага жаданьня пакідаць утульныя памешканьні й цёплыя пасады з высокімі пэнсіямі ды ехаць падымаць эканомію абяднелых калгасаў. Пры першай нагодзе яны стараюцца зноў уціснуцца ў раённае ці абласное кіраўніцтва.

Ліквідацыя Маладэчынскай вобласьці й 15 раёнаў мае за мэту вызваліць як найбольшую колькасьць актыўных партыйцаў, каб накіраваць іх у вадсталыя калгасы старшынямі, брыгадзірамі й загадчыкамі фэрмаў. Аб гэтым амаль адкрыта сказаў нядаўна на пленуме ЦК КП Беларусі сакратар Мазураў. Ён казаў, што каб вызваліць патрэбныя кадры для калгасаў, трэба сьмела йсьці «на скарачэньне колькасьці раёнаў і на ліквідацыю штатных адзінак у партыйных і гаспадарскіх арганізацыях».

Відаць прыдзецца ЦК Партыі Беларусі шмат яшчэ ліквідаваць раёнаў і навет вобласьці, каб знайсьці новых старшыняў і брыгадзіраў калгаснай гаспадаркі. Попыт на гэтую катэгорыю кіраўнікоў вялікі. Сам Мазураў на пленуме асьветчыў, што навет г. зв. перадавыя калгасы, дасягнуўшы сякіх-такіх удачаў — «топчацца на месцы й рызыкуюць адстаць».

Ад ліквідацыі раёнаў і асабліва вобласьцяў калгаснае сялянства мала што траціць. Меньш будуць налазіць прыганятыя і агітатары, якія пачкамі пасылаюцца ў калгасы, каб навучаць сялянства як сеяць, даглядаць, зьбіраць ураджай, а галоўнае выконваць плян здачы прадукцыі дзяржаве.

В. Б.

Праф. Др. Я. Станкевіч 5)

# Зь гісторыі русыфікацыі Беларусі

«Западно-руссизм» пры канцу веку не тварыў азначанае краёвае партыі, не намагаўся яе стварыць. Вонкавае праяўленьне яго ў Беларусі ў гэтыя гады было дваістае: з аднаго боку да ягоных радоў належыла вялізная армія дробных ураднікаў-русыфікатараў, якія жылі адзіным жаданьнем захаваць сваё службовае месца і не пярэчыць «видам начальства»; з другога боку — невялічкі лік грудкоў «западно-русских» культурнікаў у беларускай правінцыі (у сталічнай Вільні да іх расійская адміністрацыя блага ставілася (287), якія працягавалі традыцыі Каяловічавы» (288). Сярод іх некаторыя зблiжаліся да беларускага нацыянальнага сьведам'я. Гэтак «У вабарону сваю «западно-руссы» прывялі даволі аргумэнтаў. Формуляваныя яны былі віцебскім грудком, што складаўся каля Сапунова. Адказаць на выступленьні Южаковаў, Салаўёваў і К-о паручылі Стукалічу, што быў здольны да публіцыстыкі. «Із статыстычнымі данымі ў руках давялі мы тады, — разказаваў Стукаліч, — што як толькі Беларусы адзержылі свабоду ад польскае няволі і больш-менш дастатныя надзелы зямлі, на працягу апошняй чэцьверці веку праявіўся вылучны рост дабрабыту краю, і Беларусь у ўсіх дачыненьнях далёка пакінула за сабой усход, цэнтр і паўдня Расіі»... Аўтар захоплены Беларусьсю, ён любе яе ўсім сваім «западно-русским» пачуцьцём і хоча гэтую любоў перадаць «старшаму брату», хоча пераканаць яго ў харашыні беларускае прыроды, у прыродных багацьцях краю, у гістарычнай важнасьці беларускага народу, у ягонай культурнасьці і сьветлым нацыянальным характару. Ніколі так выразьліва не праяўляўся мясцовы «западно-русский» патрыятызм, як у даным прыпадку, калі яму прыходзілася бараніцца ад свае-ж «пабратымчай Масквы». «Усяго мы тут знойдзем... і натуральныя багацьці яе, — лес, рыба, лён, пянька ды інш. ідуць на сталічныя й загранічныя рынкі, рупатлівыя вывучэньні мясцовае археалёгіі, гісторыі й этнаграфіі адкрылі запраўдную фізыяномію мінуласьці Беларусі, багатую драматычнымі эпізодамі; гісторыя Беларусі — вынятковая багацьцем матар'ялу раманістым, прырода Беларусі — нічым ня ўступае прыродзе Швайцарыі, Італіі, Гішпаніі а Шотляндыі, — харошыя ляндшафты, лясы а гушчары»... «Такою харашынёю абдарыў Госпад бедны наш край, — піша Стукаліч, — што куды ні глянеш, проста на душы сьветла... Ды не адно край, але людзі нашае ціхое, прыгожае Беларусі пачынаюць надзіць да сябе спаважную ўвагу расійскае навукі і расійскага грамадзтва», — і пераказуе пра прыродныя здольнасьці беларускага плямені, зь якога вышла шмат геніяльных і таленавітых людзёў, пачынаючы ад Фрацыскі Скарыны а Сымона Полацкага і канчаючы Касьцюшкам, Міцкевічам, Спасовічам, Манюшкам а Глінкаю. Беларусь багатая гісторыкамі, паэтамі, музыкамі, вайсковымі героямі, каторыя, — не баіцца прызнацца «западно-русс» Стукаліч, — хоць і былі ў бальшыні польскае культуры і служылі польскай справе, але этнаграфічная прыналежнасьць каторых да беларускага плямені бессупярэчная. Выразам беларускага народнага генія, — бароніцца ён далей, — ёсьць славуты Статут Літоўскі, зь якога Аляксей Міхайлавіч сьпісаў сваё расійскае «уложение». «Прыгледзьцеся, — кажа ён, — уважней да архітэктуры туташніх будынкаў, гмахаў, цэркваў і г. д. — і вы згодзіцеся, што тут ёсьць свой мясцовы мастацкі смак, свой стыль, свой мастацкі настрой. Не, — гэткай вялічынёй, як Беларусь, нельга нэгліжаваць», — канчае Стукаліч» (285—86).

«Аднак, як ні стараліся «западно-руссы» пераканаць расійскі бок шанаваць іх і ставіцца з павагаю да іх нароўні з Расійцамі, — нічога з гэтага ня выходзіла (286). Аўтар апісуе мізэрнае палажэньне «западно-русских» культурнікаў, што працавалі над беларускай этнаграфіяй альбо старынной (287—89).

У вапошнім (дзявятым) разьдзеле свае кнігі аўтар даець «характарыстыку «западно-руссизму у пачатку X веку».

«Нявыразьлівае становічша «западно-руссов»... працягавалася і ў першыя гады XX стг. Русыфікацыя Беларусі адбывалася далей усё тым-жа ўзмоцненым тэмпам і ўсё мацней а глыбей ахапляла ўсе бакі беларускага жыцьця. Аднак, роля «западно-руссов», як аднаго з элемэнтаў гэтае русыфікацыі, была пастарому марнай. Яны ня былі прынятыя расійскай палітыкай перад рэвалюцыяй 1905 г. у якасьці станаўкой сілы краю і стаялі пастарому на заднім пляне мясцовай палітыкі. Як і раней, тон жыцьцю задавала, з аднаго боку, расійская адміністрацыя, а з другога боку — мясцовы польскі капітал. Апошні да канца выдзержаў націск цэнтральнага расійскага капіталу і ня здаў сваіх пазыцыяў. Паціху і зь вялікай асьцярожнасьцю, але Расія йшла на ўступкі польскаму капіталу. «Особые совещания о нуждах сельско-хозяйственной промышленности», што адбываліся ў 1902 г. зь ініцыятывы Вітэ, і куртатае «адміністрацыйнае земства 1903 г. для Менскай, Віцебскай а Магілеўскай губэрняў можна ўважаць за праяву падобных уступак» (291—92).

Прымеж таго ў часе рэвалюцыі «з выняткавай рэльефнасьцю зазначыўся той гістарычны факт, што ўсемагутная Расійская імпэрыя на беларускай тэрыторыі аканамічна была нолям. Расійскі пан у Беларусі, не зважаючы на ўсе яго прышчапляньні, дзяржаўся штучна, дзякуючы вылучна падзьдзяржаньню расійскай адміністрацыі і выняткавым прывілеям з боку ўлады. Даволі было, каб улада гэтая пахіснулася, як пахіснулася й расійская земляная собскасьць. Вельмі паказальна, што ў мамэнт рэвалюцыі 1905 г., зн. у мамэнт расьцярушанасьці расійскае імпэрскае ўлады, нячысленыя расійскі пан заходніх губэрняў адразу выкінуў сваю земляную собскасьць на рынак. Віленскі адзьдзел сялянскага земляного банку прыняў у гэты мамэнт на продаж бальшыню двароў расійскіх паноў. Відаць, яны добра разумелі, што яны ў Беларусі прыблуды, што ўсё ім тут чужое й варожае і што калі няма за плячыма ўсядужога губарнатара, ім валей якнайбаржджэй выбрацца дахаты, да цэнтру Расіі» (299).

# Зь беларускага жыцьця

## Беларуская ялінка ў С.-Рывэры

З году ў год, Беларусы ў С-Рывэры (ЗША) ладзяць традыцыйную ялінку для дзяцей школьнага й дашкольнага ўзросту. У гэтым годзе ялінка адбылася ў залі Шакаў, што на 25 Whitehead Ave, S. R., дня 10-га студзеня 1960 г. Як заўсёды, прыдбалі і ўпрыгожылі ялінку сябры Саюзу Беларуска-Амэрыканскае Моладзі, на чале із сп. М. Сенькам і сп. Палюховічам. Усе выдаткі на арганізацыю ялінкі пакрыў таксама СБАМ і Грамадзкі Камітэт.

Ужо перад 3.00 гадз. папаўдні вялікая заля была перапоўнена дзяцьмі й бацькамі. Судзячы па разданых падарунках, у залі прысутнічала каля 100 дзяцей і столькі-ж дарослых. Пунктуальна а гадзіне 3.00 Протапрасьв. а. Мікалай зьвярнуўся з прачулай прамовай да прысутных, заклікаючы бацькоў і надалей захоўваць беларускія традыцыі, а дзяцей — каб добра вучыліся, сыстэматычна й пунктуальна наведалі беларускую школу ды пераймалі ад старэйшых усё добрае. Наступна ўсімі прысутнымі быў прасьпяваны Калядны трапар: «Раство Твае, Хрысьце, Божа наш . . .»

Пасьля гэтага ад арганізацыйнага Камітэту прывітаў прысутных настаўнік беларускае школы сп. Б. Шчорс, аб'весьціў ды правёў праграму дзіцячай мастацкай самадзейнасьці. Мастацкая частка распачалася адсьпяваньнем Калядкі: «Ціхая ноч» — у вык. трыё: Л. Цупрык, В. Сыгарэнка і Л. Гурын, пры акамп. на піяна сп-ні Наты Барысавец (прыгатаваў сп. К. Барысавец).

Наступна распачаліся выступленьні вучняў Беларускае Парахвіяльнае Школы з С-Рывэру й дзяцей з дэклямацыямі, сьпевамі й танцамі на сцэне.

Мастацкая частка дзіцячае самадзейнасьці складалася з наступных выступаў: — Лена Цупрык — вучаніца бел. школы прадэклямавала верш «Роднае-Любае»; Маргарэта Рудак — вуч. бел. школы — верш «Сьняжыначкі — Пушыначкі»; Ю. Цыган — вуч. бел. школы — верш «Сьвецяць Зорачкі»; Іра Занкавіч — прасьпявала солё «Лявоніха». Танцавальны гурток Беларускае Школы пад маст. кіраўніцтвам сп-ні В. Леўчук, у складзе: Н. Леўчук, Ж. Харук, І. Занкавіч, Л. Шчорс, В. Арцюшэнка, Л. Гурын, Л. Цупрык і М. Рудак — у прыгожых нацыянальных строях пад музыку на баяне сп. Г. Хмуры, вельмі ўдала пратанцавалі беларускі народны танец «Бульба». М. Сіцько — адыграў на піяніне дзьве амэрыканскія калядкі; Д. Кмецін — адтанцавала папулярны тут «Тап танец»; Алік Сыгарэнка — верш «Беларускія загоны»; Ж. Харук — верш «Белыя сьняжыначкі»; Н. Барысавец — верш «Зайчы дом»; М. Вайцяхоўскі — верш «Зімовая пара»; Ж. Арцюшэнка — верш «Беларусам я завуся»; Ларыса Шчорс — верш «Зіма»; А. Сыгарэнка — выканаў на акардыёне калядку «Ціхая ноч» і вальс; Коля і Маня Сыгарэнка — супольна прадэкл. верш. «Я вучыцца не хачу»; Белар. нар танец «Лявоніха» — у тым-жа выкананьні што «Бульба»; В. Казакоў — верш «Беларусь». На заканчэньне 1-е часткі дзіцячае самадзейнасьці, вучаніца В. Сыгарэнка прывітала прысутных з новым годам дэклямучы верш М. Кавыля — «Новы Год».

Пасьля кароткага перапынку ў залю зьявіўся «Сьв. Мікалай», цягнучы сані з падарункамі. І тут пачалося — кажны атрымаўшы падарунак, знайшоў у торбе ці-то дутку, тралчатку або сьвістулькі, і кажны граў . . . Паўстаў неапісаны гармідар зь якім аднак хутка справіўся «Сьв. Міколай», раздаўшы свае падарункі. Пры дапамозе харыстых былі зарганізаваны агульныя дзіцячыя сьпевы й гульні навакол прыгожай ялінкі. Паліліся мілагучныя беларускія калядкі, а пасьля распачаліся агульныя танцы пад музыку сп. Г. Хмуры. Час прайшоў весела ў мілай, сямейнай атмасфэры.

Наагул, праграма была вельмі багатая, розная зьместам і добра падрыхтаваная. Слушна зазначыў сп. Б. Шчорс, што за прыгатаўленьне яе належыць вялікая падзяка сп-ру М. Завістовічу, які ня гледзячы на свой век, зьяўляецца настаўнікам беларускае мовы ў тутэйшай Беларускай Школе, які прыгатаваў дэклямацыі вучняў мясцовае школы, ды сп-ні В. Леўчук — за пастаноўку танцаў. Акрамя гэтага, шмат працы ўлажылі сп. сп. камп. Барысавец (навука сьпеву), Г. Хмура — акамп. да танцаў і гульняў, С. Арцюшэнка, Г. і В. Петыш, сп-ня Харук — за закупы й прыгатаваньне падарункаў, ды сп. А. Махнюк — за запраўды мастацкае выкананьне ролі «Сьв. Мікалая». Шкада аднак, што ў гэтым годзе ня было выступу беларускага хору. Тлумачэньні сп. Б. Ш., што праграма была-бы за вялікая — бяспадстаўныя! Наадварот, — кароткі канцэрт хору быў-бы якраз намесцы, бо дарослыя любяць хор, а дзецям і моладзі (нашай зьмене), — быў-бы добры штуршок і прыклад дзеля разьвіцьця іх далейшае працы.

Будзем спадзявацца, што пав. сп. А. Евец і хор з С-Рывэру адновяць практычныя заняткі, і што наступная беларуская ялінка адбудзецца з удзелам нашага слаўнага хору.

**Прысутны**

## Калядоўшчыкі

Беларускія Каляды маюць свае асаблівыя звычаі. Адным зь іх ёсьць прыгожы звычай калядаваньня. Ужо на працягу пару год, у часе Калядных сьвятаў, беларуская моладзь у ЗША прадаўжае пашыраць яго сярод Беларусаў-Амэрыканцаў. Гэтым разам, дня 10-га студзеня г. г. хлапцы й дзяўчаты з мясцовага Аддзелу ЗБМА, хадзілі із зоркаю па хатах і пялі калядныя песьні: «Бог Збавіцель нарадзіўся», «Неба і зямля», «Калядная ночка» й іншыя. Калядоўшчыкі наведалі тутэйшых Беларусаў у С-Рывэры, Г-Парку і Нью Брансьвіку. Нашы суродзічы ветліва сустракалі маладых насьбітоў беларускае народнае культуры й давалі ім падарункі або грошы.

Калядоўшчыкі сабралі 81.00 даляр, якія перадалі ў касу Аддзелу ЗБМА. Няхай Ваш добры ўчынак станецца ўсеагульным, а беларуская традыцыя калядаваньня пашырыцца ўва ўсім Новым Сьвеце!

**А. Кароль**

## Ялінка ў Нью Брансвіку

У нядзелю 17-га студзеня г. г. адбылася ялінка для беларускіх дзяцей нашай ваколіцы. Ялінку ладзілі настаўнікі Беларускае Парахвіяльнае Школы ў Нью Брансьвіку і мясцовы Аддзел ЗБМА. Сьвяточная праграма распачалася а гадзіне 4.00 па абедзе, калі сп. Ф. Родзька прывітаў усіх прысутных ды пажадаў весела правесьці вечар супольна з малодшымі. Мігацелі каляровыя аганькі на ялінцы, нібы зорачкі на сінім небе. Зялёнае дрэўца, упрыгожанае шматлікімі забаўкамі прыцягала ўвагу глядачоў.

Распачалася мастацкая частка дзіцячае самадзейнасьці. Вучаніца бел. школы Лёля Гутырчык прадэклямавала два вершы — «Зорка прамяністая» і «Прасеце Божае Дзіцятка». Наступна, Аля Лосік — вершы «Для ўсіх збаўленьне» і «Што нам дасьць Новы Год»; Алесь і Тамарка Стагановічы — вершы «Калядная ноч» і «Поўнае сьвятасьці ноч», а Юра Стагановіч адыграў на піяна «Васілёчкі»; Таня Манькоўская — вершы «Дзед Мароз» і «Палі радзімыя, палі»; Юра й Іра Азарка — вершы «Малому Дзіцятку» й «Пажаданьні». Вучаніца малодшае групы Галя Кажура вельмі добра прадэклямавала верш — «Калядныя жаданьні», а наймалодшая з усіх, Людміла Русак (4 гады) сказала верш «Яліначка» ды наканец навет адсьпявала «Саўка ды Грышка». Другая частка праграмы складалася із сцэнічнага мантажу «Сьвятая ноч» — у выкананьні сяброў Аддзелу ЗБМА й вучняў Беларускае Парахв. Школы зь Нью Брансьвіку, які напісаў і апрацаваў сп. В. Стома. На заканчэньне мантажу, усе ўдзельнікі сцэны супольна адсьпявалі некалькі калядкаў.

Пасьля гэтага зьявіўся «Сьв. Мікалай» з вялікім мяшком за плячыма. А наймалодшыя Алесь і Тамарка Стагановічы, Іра Азарка й Галя Кажура, каб спадабацца «Сьв. Мікалаю» ды атрымаць ад яго добрыя падарункі — прадэклямавалі яму супольна верш «Дзеду Марозу». І запраўды, «Сьв. Мікалай» быў у добрым настрою й за старанныя выступленьні дзяцей абдарыў іх належнымі падарункамі.

Наступна, для дзяцей і гасьцей была прыгатавана кава і закускі. У часе неафіцыяльнае часткі праграмы, выступалі сябры Аддзелу ЗБМА зь Нью Ёрку, дзе каля ялінкі прапялі некалькі калядкаў.

На асаблівую падзяку заслугоўвае сп. В. Стома — за сцэнічны мантаж і сп-ня Анна Стома — за падрыхтоўку малодшых вучняў школы, а таксама мясцовы Аддзел ЗБМА — за ладжаньне кавы й закускаў.

Шкада, што ў гэтым годзе ня было музыкі, а таму ня дзіва, што пасьля мастацкае часткі, неяк папсаваўся настрой у прысутных. Будзем верыць, што ў наступным годзе будзе лепей!

**А. Кароль**

# Адна з формаў народазабойства

«Пасею гурочкі нізка над ракою,
Сама буду паліваці горкаю сьлязою...»

Гэтак пяялі калісь маладыя беларускія жанчыны ў былой расейскай імпэрыі, мужоў якіх сілком, пад канвоем, гналі ў маскалі-салдаты. Гналі не на год-два але ледзь не на цэлае жыцьцё . . .

Ад таго часу мінула шмат гадоў. Калі цяпер, у падсавецкай Беларусі, старыя рэкруцкія й іншыя сумныя песьні ўлучаюцца ў рэрэртуары хораў, дык — як цьвердзіць бальшавіцкая прапаганда — толькі каб паказаць, як блага было ў мінулым у параўнаньні з «заможным і шчасьлівым» жыцьцём беларускага народу пры савецкай уладзе. Бо-ж цяпер, бачыце, Беларусь — гэта вольная, сувэрэнная дзяржава. Цяпер маладыя жанчыны з энтузіязмам перавыконваюць нормы на заводах і ў калгасах, у той час, як іхныя мужы ахоўваюць вялікую савецкую радзіму перад капіталістычнымі захопнікамі . . .

Гэтак кажуць бальшавіцкія прапагандыстыя. Але як-жа ў запраўднасьці? Ці старыя рэкруцкія песьні не насоўваюць аналёгіі з сучаснасьцяй?

Няма сумлеву, што абвешчанае хрушчовам зьменшаньне асабовага складу савецкіх збройных сілаў, шмат хто на Беларусі сустрэў з радасьцяй. Вось вернуцца маладыя мужчыны дахаты на Бацькаўшчыну. Працы-ж на Беларусі аж зашмат. Толькі ў сельскай гаспадарцы, паводля самага першага сакратара ЦК КПБ Мазурава, мільёны гэктараў ворнай зямлі на Беларусі не апрацоўваюцца.

Хіба няма нічога дзіўнага ў тым, што сваякі, жонкі вайскоўцаў, асьлепленыя надзеяй, не пабачылі адразу запраўдных намераў партыі. Але хутка прапагандыстыя, выхваляючы пастанову партыі, пачалі разьвейваць перадчасныя ілюзіі матак і жонак, што чакалі ўжо сваіх сыноў і мужоў дахаты . . .

Можа, чытаючы ў 6-ым нумары «Літаратуры і мастацтва» першыя звароткі вершу «Цёплы вецер» беларускага партыйнага падпявалы Пятра Прыходзькі, у некаторых і запраўды зьявіліся сьлёзы радасьці. Бо і як-жа:

«Недарма словы гэтыя — радасьць,
Цяплыня — сёньня ў песьні маёй,
Пастанову савецкага ўраду,
Як вясну, мы сустрэлі зімой» . . .

Але далей Прыходзька раскрывае карты сваіх маскоўскіх гаспадароў:

«Зноў вясельлі ў нас будуць, радзіны, —
Будуць песьні гучаць да відна.
**І салдата на землях цалінных**
**Стрэне ўзьлётам арліным вясна».**

Ці, прачытаўшы гэтыя радкі, ня станецца сьлёзы перадчаснай радасьці горкімі? І ці можна было акрэсьліць ясьней злачынныя намеры партыі?

Нельга ставіцца абыякава да гэтага злачынства. На Беларусі — гэтак гаварыў нядаўна той-жа Мазураў — «запраўдная новая цаліна», а дэмабілізаваных беларускіх вайскоўцаў будуць гнаць у Казахстан, як і тысячы іншых маладых Беларусаў. На Беларусі штораз менш насельніцтва, а бальшавікі й далей выпалоскваюць зь яе маладое пакаленьне — будучыню нашага народу. Ці-ж гэта не адна з формаў народазабойства?

**У. Ц.**

# Зь Менску ў Асуан

Пад такім загалоўкам у 17-ым нумары газэты «Зьвязда» была зьмешчаная інфармацыя аб транспартах беларускіх аўтамабіляў у Эгіпет. Як піша газэта, штодзённа ў адэскі порт прыходзяць зь Менску цягнікі з 25-цітоннымі самазваламі й іншымі машынамі. Далей савецкія ці эгіпецкія параплавы перавозяць іх да месца прызначэньня — Асуан.

Савецкі ўрад запрапанаваў Эгіпту ў якасьці эканамічнай дапамогі, пабудову высотнай запруды на Ніле, каля мясцовасьці Асуан. Як ведаем, кошт пабудовы гэтай запруды будзе складаць мільярды рублёў. І вось, на загад крамлёўскіх валадароў, штодзённа з Савецкага Саюзу ідуць вялізарныя транспарты машынаў і будаўляных матар'ялаў. А між імі й транспарты зь Беларусі.

Памагаць бедным — справа шляхотная. Але калі гэта робляць багатыя заходнія дзяржавы, яны ня спрычыняюць вялікай крыўды свайму насельніцтву. За пасьляванныя гады Амэрыка выдала дзясяткі мільярдаў даляраў на дапамогу слабаразьвітым краінам. Але амэрыканскае насельніцтва не адчувае нястачы якіх-небудзь тавараў ці машынаў.

А як-жа ў Савецкім Саюзе? Цытуем карэспандэсцыю з «Праўды Украіны» 13-га студзеня:

«— Соль ёсьць? — пытаецца ў калгасе карэспандэнт газэты.

— Солі маем досыць, але вось каб паркалю аднекуль прывезьлі . . . Цьвікі патрэбныя . . . Алейнай фарбы няма . . .»

Як бачым, купіць фунт цьвікоў — праблема.

У Казахстане каля паўтара мільёна гэктараў несабранага збожжа трапіла пад сьнег. Прычына — нябыло машынаў, а дзе й былі, дык пераважна няпрыгодныя да ўжытку.

На сьнежаньскім Пленуме ЦК КПСС Кірыла Мазураў прызнаўся, што ў Беларусі некаторыя сельскагаспадарчыя работы змэханізаваныя толькі на 12,5 працэнтаў. Рэшта — уручную. Запатрэбаваньні на машыны рэалізуюцца толькі на 30-40 працэнтаў.

Але ня гледзячы на гэта, як піша прэса «штодзённа ў адэскі порт прыходзяць транспарты беларускіх машынаў», якія высылаюцца ў далёкі Асуан.

Кажны свой учынак крамлёўскія валадары тлумачаць, як выяўленьне «высокай гуманнасьці». Гаварылі гэта навет тады, як тапілі ў крыві вугорскую рэвалюцыю. Няшмат хто верыць гэтым казачкам для наіўных дзетак.

Бальшавіцкая верхавіна ня выракаецца сваіх хімэрных мэтаў — аваладаньня ўсяго сьвету. І гэтыя гэтак званыя «дапамогі» бедным — акцыя ў кірунку пашыраньня ўплываў Масквы на іншыя дзяржавы, народы й кантынэнты.

Аднак беларускі народ зусім не зацікаўлены тым, каб ягоная прыгнятальнікі — бальшавіцкія дыктатары — падпарадкоўвалі сабе вольны сьвет.

**пс**





# Фонд набыцьця помніка

Як мы ўжо паведамлялі ў «Бацькаўшчыне» (№ 4 (488) з дня 24 студз. 1960 г.), Кліўлендзкі беларускі асяродак быў адным зь першых дзе быў распачаты збор грошай на помнік сьв. пам. Д-ру А. Орсу.

30-га студзеня г. г. Камітэт Набыцьця Помніка на магілу сьв. пам. Д-ра А. Орсы ў Нью Ёрку атрымаў з Кліўленду ад сп. А. Кахаповскага й інж. К. Калошы сьпісы ахвярадаўцаў і грашовы чэк на суму 315 дал.

Зьмяшчаючы ніжэй лісты ахвярадаўцаў з Кліўленду, Камітэт выказвае на гэтым месцы ім шчырую падзяку за складзеныя ахвяры ў фонд набыцьця помніка.

**Ліста № 1**

**(Ахвяры ад настаўнікаў, вучняў і бацькоў вучняў)**

Іна й Аўген Каханоўскія — 10 дал., Сяргей Карніловіч — 10, Юрка Каляда — 10, Іра Каляда — 10, Кастусь Калоша — 10, Аўген Кабяка — 10, Ада Кабяка — 10, Міхась Белямук — 10, Уладзімер Дунец — 10, Янка Раковіч — 10, Гэлена Радзюк — 10, Аўген Семянчук — 10, Базыль Семянчук — 10, Галіна Лічко — 10, Янка Лічко — 10, Віктар Лукашэвіч — 10, Хведар Пагуда — 10, Янка Маталыцкі — 10, Рыгор Мікуліч — 10, Уладзімер Гарох — 10, Фаня Лук'янчык — 10. **Разам — 210 дал.** Прыбытак ад паніхіднага абеду — 20 дал.

**Ліста № 2**

**(Ахвяры ад прыяцеляў, прысутных на паніхідным абедзе)**

Кастусь Кіслы — 10 дал., Др. Станіслаў і Кацярына Грынкевічы — 10, Віктар Сьпічонак — 10, Янка Лукашэвіч — 10, Марыя Трацяк — 5, Мікола Кабяка — 10, Мікола Гумен — 5, Аўгіньня Раковіч — 5, Аляксандар Лічко — 10, Мікола Ягаўдзік — 5, Мікола Стрэчэнь — 5. **Разам — 85 дал.**

**Усяго па лістах № 1 і № 2 і ад прыбытку з паніхідальнага абеду паступіла з Кліўленду — 315 даляраў.**

Збор працягваецца далей. Камітэт заклікае перадусім былых вучняў Навагradзкай Беларускай Гімназіі й Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхэльсдорфе (Нямеччына), якія яшчэ не адгукнуліся, унесьці свае ахвяры.

Чэкі і грашовыя пераказы просім перасылаць на адрас:

Michael Ragula, 385 Alabama Ave.,
Brooklyn 7, N.Y., U.S.A.

**Камітэт Набыцьця Помніка на магілу сьв. пам. Д-ра А. Орсы ў Нью Ёрку**

**М. Рагуля**
Скарбнік


НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).




Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.

Выдавец: Уладзімер Бортнік

РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ

Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць погляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.